Казімір Малевіч для дзяцей / Л. Вольскі, А. Глобус,
А. Хадановіч. – Вільнюс: Логвінаў, 2017. – 112 с.

Кніга «Казімір Малевіч для дзяцей» створана, каб пазнаёміць чытачоў з творчасцю знакамітага мастака. Падыходзіць яна і для сямейнага чытання. У кнізе змешчаны карціны Казіміра Малевіча, цікавыя факты з жыцця майстра, а таксама казкі, вершы, песні і гульні па матывах яго творчасці.

ISBN 978-609-8213-14-0





К. Малевіч. Галава селяніна. 1928 – 1929.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург

# Казімір Малевіч



11.02.1879, Кіеў – 15.05.1935, Ленінград

## ПРАДМОВА

Казімір Малевіч – гэта тое мінулае ў гісторыі мастацтва, якое ўвесь час дабудоўвае і змяняе будучыню. Ён важны для сучаснай культуры, як Старажытная Грэцыя – для ўсёй гісторыі Еўропы. Але ў той жа час гэты мастак шмат у чым незразумелы і не зразуметы. Да гэтага часу гучаць пытанні і ўзнікаюць спрэчкі аб тым, што ж такое яго чорны квадрат і што ён значыць.

У гэтай кнізе мы спрабуем стварыць умовы для разумення работ і ідэй Малевіча дзецьмі і дарослымі. Тут вы знойдзеце сапраўдныя гісторыі, чароўныя казкі, вершы, гульні і нават песні, якія дапамогуць зразумець дарослым і дзецям няпростыя на першы погляд ідэі Малевіча. Казкі і вершы з кнігі можна чытаць і самым маленькім дарослым, і самым дарослым малышам, кожны знойдзе свае сэнсы і пойдзе сваёй дарогай разумення творчасці мастака.

Гэта кніга і пра тое, як важна шукаць свой шлях, эксперыментаваць, давяраць сабе і быць незалежным. Малевіч быў сур'ёзным тэарэтыкам, але ўсе яго канцэпцыі былі б немагчымыя без умення гуляць, выходзіць за рамкі традыцый і агульнапрынятых ідэй. Таму і амаль усе гульні і заданні ў гэтай кнізе не маюць нейкага «правільнага» рашэння, малюнка або адказу.

Хай кніга жыве – не бойцеся змяняць яе і будзьце адважнымі: гуляйце, малюйце, чытайце і спявайце разам з «Казімірам Малевічам»!

# ФАКТЫ З ЖЫЦЦЯ

**1879.** 11 лютага ў горадзе Кіеве, што на Украіне, у польскай сям'і нарадзіўся хлопчык – Казімір Малевіч.

Бацька, Севярын Малевіч (1845 – 1902), служыў інжынерам на цукраварні ў прамыслоўца Мікалая Цярэшчанкі. Маці, Людвіга Малевіч з Галіноўскіх (1858 – 1942), была хатняй гаспадыняй.

**1896.** Сям'я Малевічаў пераехала ў Курск, што ў Расіі, дзе Казімір пачаў цікавіцца і займацца жывапісам. Там ён працаваў чарцёжнікам у тэхнічным дэпартаменце на чыгунцы.

**1901.** Казімір Малевіч ажаніўся з дзяўчынай з польскай сям'і – Казімірай Зглейц.

**1904.** Малевіч пераехаў у Маскву, дзе пачаў наведваць Маскоўскае вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства.



**1905.** Захапіўся імпрэсіянізмам. У гэтым мастацкім напрамку стварыў пейзаж «Царква».

У снежні ў Маскве Малевіч удзельнічаў у рэвалюцыйным паўстанні і змагаўся на барыкадах.

**1906.** Займаўся малюнкам, жывапісам і слухаў лекцыі па гісторыі мастацтва ў прыватным вучылішчы мастака Фёдара Іванавіча Рэрберга.

**1907.** Упершыню прыняў удзел у выставе Маскоўскага таварыства мастакоў, дзе выставіў свае карціны разам з авангардыстамі: Бурлюком, Ганчаровай, Кандзінскім, Ларыёнавым і іншымі.

**1909.** Малевіч ажаніўся другі раз і ўзяў за жонку Сафію Рафаловіч, дачку вядомага ўрача-псіхіятра.

**1910.** Казімір Малевіч удзельнічаў у выставе «Бубновы валет».

**1911.** Удзельнічаў у першай выставе таварыства «Маскоўскі салон». Пачаў свой перыяд неапрымітывізму. Напісаў знакамітыя гуашы «Аргенцінская полька» і «Палацёры».

**1912.** Разам з Ганчаровай і Ларыёнавым выстаўляўся ў аб'яднанні «Асліны хвост». Пачаў аддаляцца ад лучыста Ларыёнава і набліжацца да футурыстаў, называў сябе кубафутурыстам.

**1913.** Уступіў у суполку мастакоў «Саюз моладзі», куды ўваходзілі Татлін і браты Бурлюкі. Напісаў карціну «Дрывасек». Разам з Кручоных і Мацюшыным стварыў оперу «Перамога над Сонцам».

**1914.** Удзельнічаў у чацвёртай выставе «Бубновы валет» у Маскве. Тры карціны выправіў у Парыж на выставу «Салон незалежных». Пасля пачатку вайны маляваў агітацыйна-патрыятычныя рускія лубкі.

**1915.** На «Апошняй футурустычнай выставе "0,10"» выставіў 39 карцін, сярод якіх быў і «Чорны квадрат».

**1916.** Апублікаваў артыкул «Ад кубізму і футурызму да супрэматызму. Новы жывапісны рэалізм».



**1917.** Пасля Лютаўскай рэвалюцыі далучыўся да Аб'яднання левых мастакоў. Малевіч быў прызначаны ў Камісію па ахове каштоўнасцяў у Маскоўскім Крамлі.

**1918.** Стварыў дэкарацыі для спектакля Усевалада Меерхольда па п'есе «Містэрыя Буф» Уладзіміра Маякоўскага.

**1919.** Прыняў запрашэнне мастака і архітэктара Эль Лісіцкага і пераехаў у Віцебск, дзе пачаў выкладаць у Народным мастацкім вучылішчы, якім кіраваў Марк Шагал.

**1920.** У Віцебску стварылася мастацкая група УНОВІС. Яе мэтай з'яўлялася распаўсюджванне ідэй супрэматызму і калектыўная творчасць. У Казіміра Малевіча нарадзілася дачка, якую ён назваў Уна ў гонар мастацкага аб'яднання.

**1924.** Малевіч стварыў Ленінградскі інстытут мастацкай культуры, які хутка атрымаў статус дзяржаўнага.

**1925.** Працаваў над архітэктонамі (супрэматычнымі архітэктурнымі мадэлямі) разам з мастакамі Ільёй Чашнікам і Мікалаем Суеціным.

**1926.** Малевіча звольнілі з пасады дырэктара, а яго інстытут расфарміравалі.

**1927.** Мастак праводзіў выставы ў Варшаве і Берліне. Амаль усе свае карціны і вялікі літаратурны архіў Малевіч пакінуў у Германіі. Ён асцерагаўся, што ў СССР яго могуць арыштаваць, а творы знішчыць.

Малевіч ажаніўся ў трэці раз з Наталляй Манчанка.

**1930.** Казіміра Малевіча затрымалі і абвінавацілі ў шпіянажы. Два тыдні доўжыліся допыты.

**1932.** Мастак атрымаў пасаду ў эксперыментальнай лабараторыі ў Дзяржаўным Рускім музеі. Пост кіраўніка лабараторыі Казімір Малевіч займаў да самай смерці.

**1933.** Цяжка захварэў на рак.



**1934.** Удзельнічаў у выставе «Жанчыны ў сацыялістычным будаўніцтве».

**1935.** Партрэты, напісаныя Малевічам у апошнія гады, экспанаваліся на «Першай выставе ленінградскіх мастакоў».

15 мая ў Ленінградзе памёр Казімір Малевіч.

*Факты сабраў Адам Глобус*

# МАЛЕВІЧ У ВІЦЕБСКУ



Малевіч са студэнтамі. Віцебск, 1920

Увосень 1919 года Казімір Малевіч быў запрошаны ў Віцебск для выкладання ў мастацкім вучылішчы, якое было заснавана годам раней Маркам Шагалам. Вельмі хутка Малевіч атрымаў падтрымку вучняў і выкладчыкаў. Моладзь імкнулася да новага рэвалюцыйнага мастацтва і да новага навучання, якое адкрывалася для ўсіх без абмежавання ўзросту. Малевіч вучыў, што мастак павінен ствараць новыя формы, але не капіраваць тое, што бачыць у навакольным свеце.



Малевічу патрэбны былі паплечнікі і аднадумцы для таго, каб стварыць не толькі новае мастацтва, але і новы супрэматычны свет. Ужо ў снежні 1919 года ён аб'яднаў групу моладзі мастацкага вучылішча, да якой далучыліся і многія педагогі. Першай агульнай іх справай была праца па ўпрыгожанні гарадскіх вуліц, грамадскага транспарта да святкавання юбілею Камітэта па барацьбе з беспрацоўем. Будынкі і трамваі, сцэна гарадскога тэатра былі размаляваны геаметрычнымі малюнкамі.

Віцебскія аднадумцы Малевіча ўтварылі ў студзені 1920 года групу УНОВІС (гэтая назва – скарачэнне ад рускамоўнага «Утвердители НОВого ИСкусства» – «Сцвярджальнікі новага мастацтва»). Сімвалам аб'яднання УНОВІС стаў чорны квадрат, які ўдзельнікі групы прышывалі на рукавы свайго адзення. Чорны квадрат зрабіўся сімвалам новай культуры, чырвоны квадрат – сімвалам новага рэвалюцыйнага мастацтва.

Шостага лютага 1920 года УНОВІС правёў у Віцебску вялікае свята, арганізаваў выстаўку, ажыццявіў пастаноўку супрэматычнай оперы «Перамога над Сонцам» і супрэматычнага балета. Новае мастацтва, новы тэатр, новы балет – гэта новыя сродкі рэвалюцыйнай культуры. І для іх была патрэбна новая мова. Гэтую мову стваралі ўдзельнікі аб'яднання УНОВІС. Старое вечнае Сонца ў супрэматычнай оперы з'яўляецца сімвалам старога парадку, які трэба разбурыць. Зрабіць гэта павінны будзятлянскія асілкі, разбуральнікі старога свету і стваральнікі свету новага. Такую ж ролю павінны былі адыграць змагары за новае мастацтва – удзельнікі групы УНОВІС.

Група віцебскіх супрэматыстаў прадставіла сваё мастацтва на выстаўках у Маскве, Петраградзе, Берліне. Яна атрымала падтрымку ў іншых гарадах, дзе былі арганізаваны філіі УНОВІС: у Смаленску, Маскве, Арэнбургу, Пермі. Праз аднадумцаў Малевіч не толькі спрабаваў распаўсюдзіць сваё мастацтва, ён адкрыў новыя прынцыпы супрэматызму ў прасторы, рыхтаваў аснову для сучаснай архітэктуры. У Віцебску майстар стварыў новую сістэму выкладання мастацтва.

*Аляксандр Лісаў*



Заняткі ў майстэрні УНОВІС. Віцебск, 1920





Удзельнікі групы УНОВІС. Віцебск, 1922



Дэкарыраванне Белых казармаў Малевічам і навучэнцамі Мастацкага вучылішча. Віцебск, 1919



Бялізна на плоце. 1902 – 1903.
Прыватная калекцыя





Партрэт члена сям'і мастака. Каля 1906.
Гарадскі музей, Амстэрдам



Царква. Каля 1905.
Прыватная калекцыя





Адпачынак (Грамадства ў цыліндрах). 1908.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург



Мужчына з мехам. 1911 – 1912.
Гарадскі музей, Амстэрдам



КАЗКА

Адам Глобус

# Мех

Казка пра героя карціны
Казіміра Малевіча «Мужчына з мехам»

Мастак Казімір Малевіч прагульваўся па Віцебску, калі пабачыў чалавека з шэрым мехам за плячамі. Той няспешна ішоў па асветленай залатым вечаровым сонцам вуліцы. Было відаць, што ён моцна стаміўся за дзень і яму цяжка даецца кожны крок.

У мастака ўзнікла жаданне спыніць чалавека з мяшком і запрасіць яго ў майстэрню, каб там неадкладна намаляваць. Малевіч дагнаў прахожага і павітаўся:

– Добры вечар! Я мастак Казімір Малевіч. Бачу, што вы стаміліся. Таму хацеў бы запрасіць вас у майстэрню і пачаставаць салодкім чаем з абаранкамі. Пачастунак прапаноўваю не дармовы. За чай з абаранкамі вы мне гадзіну папазіруеце. Я вельмі хачу намаляваць з вас карціну «Мужчына з мехам», бо вы мяне моцна ўразілі.

Чалавек паставіў шэры мех на зялёную траву, дастаў з кішэні белую хустачку і выцер ёю свой потны чырвоны лоб:

– Добра. Я пайду з вамі ў майстэрню, там вып'ю шклянку чаю і з'ем пару абаранкаў. Я папазірую вам для карціны «Мужчына з мехам». А пакуль буду пазіраваць, раскажу, чаму так моцна стамляюся кожны божы дзень... Выбачайце, што не адразу назваў сябе. Я ветэрынар Уладзімір Хвастовіч.

Мастак і ветэрынар пацiснулі адзін аднаму рукі. У Малевіча былі вялікія белыя рукі, а ў Хвастовіча – вялікія чырвоныя.

У майстэрні Казіміра Малевіча панаваў ідэальны парадак. Мастак наліў госцю поўную шклянку духмянага чаю. Той пачаставаўся абаранкамі, выпіў чаю і стаў пасярод майстэрні ў позу, патрэбную мастаку. Пакуль Казімір Малевіч пісаў карціну, ветэрынар расказаў дзівосную гісторыю пра свой шэры мех.

Тры гады назад Уладзімір Хвастовіч ішоў неяк раніцай у свой ветэрынарны пункт. Кіраваўся да рагатых і хвастатых пацыентаў. Па дарозе ён сустрэў старую жанчыну, якая марудна ішла па сцежцы. За плячыма яна несла шэры мех, мяркуючы па ўсім, цяжкі. Ветэрынар вырашыў дапамагчы жанчыне. Як высветлілася, яна таксама кіравалася ў ветпункт. У яе мяху сядзеў хворы сабачка.

Хвастовіч занёс мех да сябе ў кабінет і дастаў з яго жывёлу. Агледзеў яе, але ніякіх прыкмет хваробы не знайшоў. Тут старая і прызналася: яна знарок трапілася на вочы ветэрынару, бо стамілася штодня цягаць за плячыма цяжкі мех. А цягаць яго ёй даводзілася таму, што мех быў чароўным і мог вылечыць любую хваробу. Для гэтага трэба было пасадзіць у яго хворую жывёліну, закінуць мех за плечы і абысці з ім квартал. Пасля гэтага жывёла ў мяху станавілася абсалютна здаровай!

Ветэрынар не паверыў старой. Ён узяў шэры мех і пасадзіў у яго хворае кацяня, якое прынесла бялявая дзяўчынка. З мехам за плячыма Хвастовіч абабег квартал, у якім стаяў ветэрынарны пункт. Калі пасля гэтага ён дастаў з меха кацяня, яно было зноў здаровым. Нават следу хвароба на ім не пакінула. Хвастовіч хацеў вярнуць шэры мех старой жанчыне, але яе нідзе не было. Колькі ён ні шукаў, так і не знайшоў гаспадыню чарадзейнага меха...

Тры гады Хвастовіч цягаў у мяху хворых жывёл, ажно пакуль яго не спыніў мастак. Зразумела, што Казімір Малевіч таксама не паверыў Хвастовічу. Ён нават пасмяяўся з ветурача. Тады той зняў са сцяны майстэрні чучала савы, паклаў яго ў мех і прапанаваў Малевічу абысці з ім квартал. Казімір абабег квартал з чучалам у мяху. Калі ж ён развязаў мех, дык адтуль вылецела жывая і здаровая птушка. Яна праляцела над мальбертам і накіравалася да акна. Добра, што вечар быў цёплы і акно ў майстэрні было расчынена. Сава вылецела ў пацямнелае зорнае неба і там знікла. Мастак падняў з падлогі пусты мех і хацеў вярнуць яго Уладзіміру Хвастовічу. Толькі ветэрынара ў майстэрні ўжо не было.

Тры месяцы і тры тыдні мастак Малевіч насіў вакол свайго квартала пташак, катоў і сабак. Падбіраў хворых, а выпускаў здаровых. Ён насіў за плячыма шэры мяшок, ажно пакуль яго не спыніў малады чалавек і не прапанаваў дапамогу. Шэры мех перайшоў да гэтага добрага

чалавека. Цяпер той займаецца лячэннем хворых жывёл.

На добры ўспамін пра чарадзейны шэры мяшок нам засталася карціна Казіміра Малевіча, якая зараз вісіць у Гарадскім музеі ў слаўным горадзе Амстэрдаме.







Нацюрморт. 1910.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург



Купальшчык. 1911.
Гарадскі музей, Амстэрдам





Сялянка з вёдрамі і дзіцем. Каля 1912.
Гарадскі музей, Амстэрдам

# ГУЛЬНЯ

**Паглядзі на гэтую карціну.**

**Што ў ёй незвычайнага?**

?

Яна нібы створана з дэталяў розных малюнкаў, карцін і газетных выразак. Такая тэхніка называецца калаж. На наступнай старонцы мы пакінулі ад гэтай карціны толькі ружовы і жоўты прастакутнікі. Вазьмі старыя газеты, часопісы ці буклеты, клей, нажніцы і алоўкі або крэйды. Сумяшчай тэкст і малюнкі, літары і кавалачкі фатаграфій. Ствары свой калаж. Казімір Малевіч не адразу прыдумаў свой галоўны шэдэўр – «Чорны квадрат». Спачатку мастак шмат эксперыментаваў, спрабаваў розныя стылі і шукаў свой шлях.

**Табе спатрэбяцца:** старыя газеты, часопісы ці буклеты, клей, нажніцы і алоўкі або крэйды.






Дама ля афішага слупа. 1914.
Гарадскі музей, Амстэрдам



Дрывасек. 1912 – 1913.
Гарадскі музей, Амстэрдам





Адам Глобус

# Дрывасек

Казка пра героя карціны
Казіміра Малевіча «Дрывасек»

На ўскрайку горада Віцебска жыў дрывасек. Звалі яго Казімірам. Раніцай ён ехаў у лес, дзе сек дрэвы. Дрывасек выбіраў найлепшыя з вялікіх дрэў. Валіў іх. Абсякаў сукі і галіны. Чыстыя бярвенні Казімір завозіў на фабрыку. Там бярвенні распускалі на дошкі і добра высушвалі. З сухіх дошак на фабрыцы рабілі мэблю. Шафы і буфеты, сталы і крэслы, ложкі і камоды майстры выраблялі з дрэва, якое нарыхтоўваў для іх дрывасек Казімір.

Усе ў Віцебску любілі і паважалі працавітага дрывасека. Называлі яго волатам, бо сякера, якой Казімір валіў лес, была такая цяжкая, што ніхто, акрамя гаспадара, нават не мог адарваць яе ад зямлі. Шмат хто спрабаваў падняць сякеру, але ніхто так і не змог. Казімір атрымаў сякеру ад бацькі Севярына, а той ад свайго дзеда Міралюба. І бацька, і дзед, і прадзед у Казіміра, як і ён сам, былі дрывасекамі і волатамі. Калі бацька перадаваў сыну волатаўскую сякеру, ён наказаў берагчы

яе, патлумачыўшы, што ў цяжкія часы яна дапаможа ў змаганні з ворагам.

Як бацька Севярын сказаў, так яно і здарылася. У адзін цёмны дзень у лес пад Віцебскам прыляцеў трохгаловы цмок з бліскучым мячом у лапе. Пачвара мела доўгі хвост, зялёныя крылы і чатыры лапы з жалезнымі кіпцямі. Языкі ў цмока былі раздвоеныя, як у змяі. Вочы лупатыя, як у жабы. Шыі доўгія, як у жырафы. Галовы цмока ўпрыгожвалі залатыя кароны.

– Гэты лес цяпер мой! Буду тут жыць і панаваць! Ніхто з майго лесу не возьме ні ягады, ні грыба, ні галінкі, ні травінкі, ні парушынкі! – сказаў цмок дрывасеку і дыхнуў на яго чырвоным полымем адразу з трох шырокіх пашчаў.

– Як скажаш, так і будзе, шаноўны цмок. Ты магутны і ваяўнічы. У цябе жалезныя кіпці, полымя ў трох пашчах і меч у кіпцястай лапе. Толькі давай мы з табою пацягаемся. Хто з нас больш дужы, той і стане раздаваць загады, а хто слабы, пачне слухацца і іх выконваць. Ты згодны, шаноўны цмок? – запытаў Казімір у зялёнакрылай пачвары.

– Ты, чалавечак, пытаешся ў мяне, магутнага цмока?! Ці згодны я з табою цягацца? Вядома, згодны! У цябе ёсць сякера, я маю меч. Бітву можна пачаць тут і цяпер, неадкладна!

Дрывасек выслухаў самаўпэўненага цмока і прапанаваў іншае:

– Я не хачу скалечыць такога цудоўнага цмока, як ты. Таму прапаную падкінуць зброю ў неба. Хто з нас вышэй яе падкіне, той і пераможа!



Цмок размахнуўся і шпурнуў у неба бліскучы меч. Той даляцеў ажно да хмары і праз тры хвіліны вярнуўся ў цмокаву лапу. Дрывасек размахнуўся і кінуў у неба сякеру. Тры гадзіны волат і цмок чакалі, пакуль яна вернецца з неба на зямлю.

– Твая сякера лягчэйшая за мой меч, таму давай памяняемся зброяй. Цяпер я кіну ў неба тваю сякеру, а ты падкінеш мой меч! – прапанаваў хітры цмок.

Казімір узяў цмокаў меч і шпурнуў у бок месяца. Меч ударыўся аб яго і рассыпаўся на срэбны пыл.

Цмок хацеў узняць дрывасекаву сякеру і засекчы Казіміра, але гад не змог адарваць яе ад зямлі. Давялося цмоку скарыцца і пачаць слухацца дрывасека. Той загадаў яму ўладкавацца на працу ў вандроўны заацырк. Цяпер трохгаловы цмок выступае на арэне з вогненным шоу.

Дрывасек Казімір як працаваў, так і працуе з каштоўным дрэвам, з якога віцебскія майстры робяць цудоўную мэблю. Яны вырабляюць сталы і крэслы, ложкі і камоды, буфеты і шафы.





Раніца пасля навальніцы. 1913.
Музей Саламона Р. Гугенхэйма, Нью-Ёрк





Гвардзеец. 1913 – 1914.
Гарадскі музей, Амстэрдам

# ГУЛЬНЯ



Тачыльшчык (Прынцып мільгання). 1912.
Мастацкая галерэя Ельскага ўніверсітэта, Нью-Хэйвэн

?

Тачыльшчык – рабочы, які вострыць рэжучыя інструменты: нажы, нажніцы, сякеры, пілы і іншае. У гэтай карціны ёсць і другая назва – «Прынцып мільгання», яна і падказвае нам ідэю палатна. Малевіч адлюстраваў працэс вастрэння так, каб глядач адчуў і ўбачыў на адной карціне рух чалавека і мільганне інструмента.

**Паспрабуй і ты на гэтай старонцы перадаць рух: намаляваць птушку, якая ляціць, або спартсмена, які бяжыць.**

**Табе спатрэбяцца:** каляровыя алоўкі або фламастары.



**МАЛЮЙ ТУТ**



Самавар. 1913.
Музей сучаснага мастацтва, Нью-Ёрк





Туалетная шкатулка. 1913.
Дзяржаўная Траццякоўская галерэя, Масква




Чорт. 1914.
Літаграфія на вокладцы паэмы
А. Кручоных і В. Хлебнікава «Гульні ў пекле».
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург





# Чорт

## Казка пра героя літаграфіі Казіміра Малевіча «Чорт»

Здараецца, што які-небудзь добры чалавек знаходзіць у парку птушанятка. Забірае яго дадому, адагравае, выгадоўвае і выпускае на волю. А бывае, сустракае ў лесе маленькае хворае ваўчаня. Вылечыўшы і падгадаваўшы яго дома, чалавек вяртае тое ваўчаня ў родны лес. Звычайная справа для разумных людзей – дапамагаць птушкам і жывёлам у бядзе.

Мастак Казімір Малевіч быў добрым і разумным чалавекам. Ніхто не сумняваўся, што ён заўсёды дапаможа жывёле ці птушцы, якая трапіць у бяду. І аднойчы з чулым і спагадлівым мастаком Малевічам здарылася надзвычайная гісторыя.

Пасля працы ў майстэрні Казімір вырашыў прагуляцца ў парку. І пад высокім дубам сярод лістоты і жалудоў ён пабачыў зусім не птушаня ці ваўчаня, якому трэба неадкладная дапамога… Малевіч пабачыў маленечкага чорнага чорціка. Калі мастак схіліўся над ім, той цяжка ўздыхнуў і папрасіў: «Дапамажы мне, добры чалавек!» Чорцік сказаў гэта такім сумным голасам і ўздыхнуў

з такой скрухай, што Малевіч пашкадаваў яго, падняў з зямлі і аднёс у майстэрню.

Там чорцік папіў цёплага малака з мёдам і ачуняў. Казімір прапанаваў знайдышу выбар: вярнуцца ў парк да вольнага жыцця ці застацца ў майстэрні і пачаць вучыцца. Мастак быў абсалютна ўпэўнены, што чорцік будзе рвацца на свабоду. Але чорт выбраў майстэрню замест парку і вучобу замест гультаяватага жыцця.

Вучыўся чорцік так старанна, што Казіміру Малевічу давялося купляць яму школьную форму, каб весці ў гімназію. Пэўныя складанасці ў чорціка ў ёй былі, бо яму даводзілася хаваць рогі ў густых валасах і насіць спецыяльны абутак, каб аднакласнікі крый бог не пабачылі яго чорныя капыты. У гімназіі чорцік вучыўся пад псеўданімам Міралюб Чорны. Вучыўся так добра, што скончыў не толькі гімназію, але і ўніверсітэт.

Міралюб Чорны стаў выдатным чарцёжнікам. Разам з Казімірам Малевічам ён прыехаў у Віцебск. Там выкладаў чарчэнне ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. Лепшага за яго чарцёжніка беларускі горад не бачыў за ўсю сваю доўгую гісторыю. А калі з часам Казімір Малевіч пераехаў жыць і працаваць у іншы горад, дык чорцік застаўся ў Віцебску. Тут ён пражыў доўгае і шчаслівае жыццё сапраўднага чалавека і выхаваў шмат выдатных чарцёжнікаў.








Авіятар. 1914.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург

# ГУЛЬНЯ

? Казімір Малевіч быў не толькі мастаком і даследчыкам, ён паспяваў эксперыментаваць і з дызайнам.

**Паглядзі на гэтыя эскізы тэатральных касцюмаў.**

? Яны былі створаны для герояў оперы «Перамога над Сонцам». Гэта адзенне для Забіякі, Новага Чалавека, Баязлівага і Спартсмена. А вось аднаго персанажа мы пакінулі распранутым. Прыдумай, кім ён будзе, і ствары для яго касцюм у стылі Малевіча.

**Табе спатрэбіцца:** каляровыя алоўкі або фламастары.





Баязлівы. 1913.
Санкт-Пецярбургскі дзяржаўны музей тэатральнага і музычнага мастацтва, Санкт-Пецярбург



Спартсмен. 1913.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург

Эскізы касцюмаў да оперы «Перамога над Сонцам». 1913



Забіяка. 1913



Новы Чалавек. 1913

Эскізы касцюмаў да оперы «Перамога над Сонцам». 1913. Санкт-Пецярбургскі дзяржаўны музей тэатральнага і музычнага мастацтва, Санкт-Пецярбург





**МАЛЮЙ ТУТ**



Чорны супрэматычны квадрат. 1915.
Дзяржаўная Траццякоўская галерэя, Масква



# ЛЕГЕНДА

Якуб Конус

## Бессмяротнасць

### Легенда пра карціну Казіміра Малевіча «Чорны квадрат»

Мастак Казімір працаваў у тэатры. Ён рабіў дэкарацыі і касцюмы да спектакля «Перамога над Сонцам». Калі праца над аздабленнем сцэны была скончана і артысты рыхтаваліся да прэм'ернага паказу, Казімір вырашыў накрыць у майстэрні святочны стол, каб стваральнікі «Перамогі над Сонцам» змаглі ўрачыста адзначыць падзею.

Мастак купіў у краме шмат садавіны і гародніны. Ён набраў салодкіх чырвоных і залатых яблыкаў. Выбраў самы вялікі з ананасаў. Узважыў мядовых груш. Наклаў кош вінаграду. Для жанчын выбраў шампанскае, а для мужчын – хлебнае віно. Побач з віном на палічцы ў краме стаяў шкляны кубік з цыліндрычным рыльцам. На ім была акуратная этыкетка з надпісам «Бессмяротнасць». Казімір быў упэўнены, што ў шкляным кубіку таксама хлебнае віно – любімы напітак сур'ёзных мужчын. Таму мастак і набыў яго ды прынёс у майстэрню.

Калі ўсё было расстаўлена на стале, Казімір заўважыў, што кубік знік. Першая думка – пакінуў у краме. Мастак вярнуўся туды і папытаў у прадаўшчыцы пра шкляны кубік з «Бессмяротнасцю». Прадаўшчыца зрабіла круглыя вочы і запэўніла Казіміра, што ў яе краме ніколі не было хлебнага віна з назвай «Бессмяротнасць».

Збянтэжаны мастак вярнуўся ў майстэрню і ўважліва агледзеў тое месца, куды ён паставіў кубічную бутэлечку. На белым абрусе Казімір убачыў акуратны след ад квадратнага донца. Мастак узяў пэндзаль і зрабіў чорнай рыскай абрыс вакол следу. Атрымаўся даволі роўны рукатворны квадрат. Гэты абрыс мастак паклаў у аснову сваёй карціны «Чорны квадрат».

Пакуль госці балявалі ў майстэрні, Казімір пісаў сваю знакамітую карціну. Артысты прапаноўвалі яму салодкія грушы і яблыкі, падносілі хлебнае віно і шампанскае, спакушалі вінаградам, але Казімір адмаўляўся ад пачастункаў, бо ў яго было толькі адно жаданне і адна прага – напісаць карціну «Чорны квадрат». І ён яе напісаў.








Супрэматызм (з сінім трохвугольнікам і чорным прастакутнікам). 1915.
Гарадскі музей, Амстэрдам



Супрэматызм. 1915.
Гарадскі музей, Амстэрдам





Супрэматычны жывапіс. 1917 – 1918.
Гарадскі музей, Амстэрдам

# ГУЛЬНЯ

Ідэі Казіміра Малевіча паўплывалі на культуру і мастацтва ўсяго дваццатага стагоддзя. З супрэматызму нарадзіліся самыя розныя рэчы.

**Паглядзі на гэтыя карціны.**



На што ў сучасным свеце яны падобныя?

Прыклад: «Чорны квадрат» нагадвае смартфон або экран тэлевізара, «Супрэматызм (Supremus № 56)» – касмічную станцыю, «Супрэматызм» – план музея або пажарную станцыю, спраектаваную жанчынай-архітэктарам Захі Хадыд. Намалюй побач з карцінамі прадметы, якія яны табе нагадваюць.

**Табе спатрэбяцца:** каляровыя алоўкі.





Чорны супрэматычны квадрат. 1915.
Дзяржаўная Траццякоўская галерэя, Масква

**МАЛЮЙ ТУТ**



Супрэматызм. 1915.
Гарадскі музей, Амстэрдам

МАЛЮЙ ТУТ





Супрэматызм (Supremus № 56). 1916.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург

МАЛЮЙ ТУТ



Чырвоны квадрат (Жывапісны рэалізм жанчыны ў двух вымярэннях). 1915.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург



ЛЕГЕНДА

Якуб Конус

# Гузікі

## Легенда пра віцебскія гузікі

Мастак-супрэматыст Казімір Малевіч прыехаў у Віцебск і зрабіў там вялікую выставу сваіх геаметрычных карцін. На ёй Казімір патлумачыў прысутным значнасць, каштоўнасць і эталоннасць формы такой фігуры, як квадрат. Мастак так пераканаўча расказваў пра ідэальнасць чорнага, чырвонага і белага квадратаў, што нават майстры, якія рабілі ў Віцебску гузікі, пасля сустрэчы з Казімірам Малевічам пачалі замест круглых гузікаў выпускаць квадратныя. Мода на квадратныя гузікі пратрымалася ў Віцебску досыць доўга. Гадоў дваццаць, лічы, ад заканчэння Першай сусветнай вайны ажно да пачатку Другой сусветнай.



# ГУЛЬНЯ / АРХІТЭКТОНЫ



Здаецца, Казімір Малевіч гэтак жа, як і ты, любіў гуляць у кубікі і будаваць вежы, але рабіў гэта так, што ў яго атрымліваліся макеты фантастычных небаскробаў. Паспрабуй і ты намаляваць план і стварыць праект свайго небаскроба. А потым можна будзе і яго макет пабудаваць з кубікаў або дэталяў канструктара.

**Табе спатрэбяцца:** просты аловак, кубікі або канструктар.





Архітэктон «Гота». 1923.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург



Архітэктон «Альфа». 1920.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург



Супрэматызм (Чорны крыж на чырвоным авале). 1921 – 1927.
Гарадскі музей, Амстэрдам





Супрэматызм (Белы крыж). 1927.
Гарадскі музей, Амстэрдам



Складанае прадчуванне (Торс у жоўтай кашулі). Каля 1932.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург





Адам Глобус

# Кашуля

### Казка пра героя карціны Казіміра Малевіча «Складанае прадчуванне (Торс у жоўтай кашулі)»

Мастак Казімір Малевіч адкрыў дзве школы для маладых мастакоў. Адну ў горадзе Віцебску, а другую – у Смаленску. Малевіч мусіў шмат ездзіць з Віцебска ў Смаленск і назад. Ездзіў ён праз горад Оршу. Там мастаку даводзілася спыняцца, а часам і начаваць, бо цягнікі ў суровы пасляваенны час хадзілі кепска, часта спазняліся і затрымліваліся.

У Оршы ў Малевіча быў знаёмы доктар, які заўсёды насіў жоўтую кашулю. Звычайна дактары носяць белыя ці зялёныя апранахі, а гэты выбраў сабе жоўты колер. Уся Орша называла яго не інакш як Жоўтая Кашуля. Усе помнілі яркі жоўты колер адзення, але мала хто мог нешта сказаць пра твар знакамітага доктара, бо ўласна твару ў яго і не было.

Адсутнасць твару і зацікавіла Казіміра Малевіча. Ён пазнаёміўся з доктарам, каб напісаць яго партрэт. Мастака так усхвалявала бястварае аблічча чалавека, што

ён намаляваў не адзін, а два партрэты Жоўтай Кашулі. Першы партрэт Казімір падарыў незвычайнаму натуршчыку, а другі пакінуў сабе. У знак падзякі за падораны партрэт доктар дазваляў Малевічу спыняцца і начаваць у сваім доме.

Дом быў знакамітым, бо туды прыходзілі па дапамогу для сваіх дзетак жанчыны не толькі з усёй Оршы, але і з яе ваколіц. Доктар папраўляў здароўе дзяцей крынічнай вадой. У садзе за домам з-пад зямлі ішла чысцюткая халодная вада. Доктар абклаў крынічку сабранымі ў полі камянямі. У каменнае кола замацаваў металічную трубу, з яе і пачынаўся Светлы ручай. Лекар называў сваю крыніцу Светлай, адпаведная назва перайшла і на ручай.

Вада са Светлай крыніцы была смачная, а калі ў яе дадаваліся травы, сабраныя Жоўтай Кашуляй, тады вадой можна было паправіць здароўе любому дзіцяці. Праўда, было некалькі ўмоў.

Каб вада са Светлай крыніцы падзейнічала, яе павінна была прасіць маці хворага дзіцяці. Калі ж па ваду прыходзіў бацька, дзед ці баба, вада не дзейнічала. Акрамя першай умовы была і другая, больш цяжкая для выканання. Дзіця павінна было не проста выпіць глыток цудадзейнай вады, але і пасля гэтага цэлую гадзіну нерухома праляжаць у ложку. Лекар настойліва раіў даваць ваду дзіцяці перад сном. Толькі ж не ўсе слухаліся Жоўтую Кашулю. Некаторыя спяшаліся як мага хутчэй дапамагчы хвораму, а праз гэта больш шкодзілі, чым дапамагалі.



Трэцяя ж умова была самай простай: пра Жоўтую Кашулю і Светлую крыніцу можна было расказваць толькі тым, хто трапіў у бяду, і тым, каму патрэбна неадкладная дапамога. Але нават такую простую ўмову няўдзячныя людзі часта не выконвалі.

Знайшліся такія, хто абвінаваціў доктара ў сяброўстве з нячыстымі сіламі – чарцямі – і ворагамі народу – шпіёнамі. Міліцыянеры зрабілі спробу арыштаваць Жоўтую Кашулю. Уласна кажучы, кашулю яны арыштавалі, але самога доктара не знайшлі. Міліцыя нават прымусіла мастака Казіміра Малевіча намаляваць яшчэ некалькі партрэтаў знакамітага доктара. Малевіч выканаў патрабаванне, але па тых малюнках нельга было пазнаць лекара, таму доктар і застаўся на волі.

Добрыя людзі казалі, што Жоўтая Кашуля яшчэ доўга жыў каля розных чыстых крыніц і паспеў паправіць здароўе многім хворым дзецям.





Цясляр.1928 – 1929.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург





На сенажаці. 1929.
Дзяржаўная Траццякоўская галерэя, Масква

# ГУЛЬНЯ / АЎТАПАРТРЭТЫ

**Паглядзі на гэтыя аўтапартрэты Казіміра Малевіча.**

?

Чым яны адрозніваюцца? Так мастак бачыў сябе ў розныя моманты свайго жыцця. На апошнім аўтапартрэце Малевіч адлюстраваў сябе чалавекам эпохі Адраджэння. Як ты думаеш чаму? Ствары і ты аўтапартрэт. Падумай, якім чынам ён можа расказаць гледачам пра тое, хто ты, які ў цябе характар і што ты любіш рабіць.

**Табе спатрэбяцца:** каляровыя алоўкі, фламастары або гуаш, пэндзлі і вада ў шклянцы.





Эскіз фрэскавага жывапісу (Аўтапартрэт). 1907.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург



Аўтапартрэт. 1910.
Дзяржаўная Траццякоўская галерэя, Масква



Аўтапартрэт. 1910 – 1911.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург



Аўтапартрэт. 1933.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург



МАЛЮЙ ТУТ

# ГУЛЬНЯ



Пейзаж з пяццю дамамі. 1928 –1929.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург

**Уяві, што ты апынуўся ўнутры гэтай карціны.**

?

**Напішы некалькі слоў пра тое, як ты сябе адчуваеш. Якія гукі чуеш? Якія пахі цябе акаляюць? Пра што ты думаеш і што хацеў бы зрабіць?**

**Табе спатрэбіцца:** ручка.



**МАЛЮЙ ТУТ**



Чырвоная фігура. 1928.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург





Дачнік. 1928 – 1929.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург

# ГУЛЬНЯ



Чайнік. 1923.
Дзяржаўны Рускі музей,
Санкт-Пецярбург



Кубак. 1923.
Дзяржаўны Рускі музей,
Санкт-Пецярбург



Яшчэ адзін праект Малевіча – посуд. Чым гэтыя чайнік і кубак адрозніваюцца ад тых сервізаў, што мы выкарыстоўваем дома?

Атрымліваецца, што супрэматызм – гэта не толькі кірунак у жывапісе. Малевіч прыдумаў цэлы геаметрычны свет: карціны, дамы, адзенне і нават посуд. Прыдумай і ты варыянт посуду для свайго персанажа. Чым будзе есці твой герой і колькі зубцоў будзе ў яго відэльца? Якога памеру, формы і колеру будуць яго лыжка, кубак ды талерка?

**Табе спатрэбяцца:** каляровыя алоўкі або фламастары.



МАЛЮЙ ТУТ



Тры жаночыя фігуры. 1930.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург



ПАДАННЕ

Яніна Кропка

# Салодкі сон

## Паданне пра вочы

Пасля грамадзянскай вайны ў горадзе Віцебску былі галодныя часы. Не хапала нават самых простых прадуктаў – хлеба і малака. Пра нейкія ласункі ды прысмакі нават гаворкі не ішло. Людзі задавальняліся самым малым у ежы. Селядзец з бульбінаю быў за раскошу. У тыя галодныя дні мастак Казімір Малевіч і пачуў ад сваёй вучаніцы Надзі Хадасевіч гісторыю пра салодкі сон...

У мястэчку Глыбокае старая баба Маня расстаралася і прынесла дадому мяшочак з колатым цукрам. Кавалкі белага і бліскучага, як крышталь, цукру баба Маня пераклала ў слоік, які заткнула шырокім коркам. Слоік з цукрам яна паставіла ў буфет. Унукам – Вальцы ды Толіку – баба Маня сказала, што Хрыстос, намаляваны на іконе, будзе сачыць за цукрам. Калі нехта возьме ды скрадзе нават маленечкі кавалак салодкага крышталіка, Ісус Хрыстос убачыць і раскажа бабе Мані.

Валька і Толік дачакаліся, калі старая сышла з дому, і падкраліся да буфета. Хрыстос уважліва глядзеў на малых злодзеяў. Тады дзеці вырашылі Ісуса падмануць. Яны выбеглі з кухні і пачалі асцярожна зазіраць у яе праз

вузкую шчыліну дзвярэй. Спадзяваліся, што Хрыстос хутка засне, заплюшчыць вочы, а тады можна будзе наесціся цукру. Але Той глядзеў на іх не міргаючы. Тады Валька ўзяла шыльца, стала на крэсла і папрабівала Хрысту вочы, каб Ён не пабачыў крадзяжу. Разам з Толікам Валька наелася салодкага ад пуза.

Калі баба Маня вярнулася і пабачыла напаўпусты слоік, дык адлупцавала пасам унукаў. Яна нават не стала пытацца ў Хрыста, бачыў Ён крадзеж ці не.

Валька расказвала потым сваёй сяброўцы Надзі, што ёй час ад часу сніцца салодкі сон, у якім яна шыльцам прабівае намаляваныя вочы Хрыста, а потым есць кавалкі цукру.

Гэтая дзіўная гісторыя, расказаная вучаніцай, так моцна ўразіла і здзівіла Казіміра Малевіча, што мастак пачаў маляваць карціны з тварамі без вачэй, карціны, героям якіх нельга шыльцам выкалаць вочы, але можна ўявіць і дамаляваць.







Дзве мужчынскія постаці (у белым і чырвоным). 1930.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург



Жаночы торс. 1928 – 1929.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург





Дзяўчына з грэбенем у валасах. 1932 – 1933.
Дзяржаўная Траццякоўская галерэя, Масква

# ГУЛЬНЯ



Жанчына з граблямі. 1928 – 1932.
Дзяржаўная Траццякоўская галерэя, Масква



**Ад гэтай карціны мы пакінулі толькі яе гераіню. Прыдумай і намалюй свет, у якім яна жыве, яе асяроддзе.**

**Табе спатрэбіцца:** каляровыя алоўкі або фламастары.





**МАЛЮЙ ТУТ**



Купальшчыцы. Каля 1930.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург





Купальшчыкі. Пачатак 1930-х.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург

# ГУЛЬНЯ



? Як ты думаеш, куды рухаецца конніца? Каго яна сустрэне? Пашыр і дамалюй карціну!

**Табе спатрэбяцца:** каляровыя алоўкі або фламастары.





Чырвоная конніца. Каля 1932.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург

**МАЛЮЙ ТУТ**



Партрэт дачкі мастака. 1934.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург





Партрэт жонкі мастака. 1933.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург

# ГУЛЬНЯ



?

Пра што могуць думаць спартсмены на карціне? Напішы ці дамалюй у пустыя воблакі іх думкі.



**Табе спатрэбіцца:** ручка.





Спартсмены. 1930 – 1931.
Дзяржаўны Рускі музей, Санкт-Пецярбург

**МАЛЮЙ ТУТ**



# СПЯВАЙ З МАЛЕВІЧАМ

## Намалюй!

1 На - ма - люй да - ска - на - ла - е ко - ла І квад - рат, не - па - хіс - на пра - мы.

5 Ба - чыш, свет кру - ціць ко - лы наў - ко - ла І бу - ду - е з квад - ра - таў да - мы.

9 Го - лас фар - бы па - чуй! На - ма - люй, на - ма - люй!

13 Ко - лер гу - ку ад - чуй! На - ма - люй, На - ма - люй,

17 на - ма - люй!



# Намалюй!

Намалюй дасканалае кола
І квадрат, непахісна прамы.
Бачыш, свет круціць колы наўкола
І будуе з квадратаў дамы.

Прыпеў:
Голас фарбы пачуй!
Намалюй, намалюй!
Колер гуку адчуй!
Намалюй, намалюй, намалюй!

Намалюй саламяныя стрэхі,
Сонца, неба, жніво і лясы.
У лясах – заблукалае рэха
І далёкіх сяброў галасы.

Прыпеў.

Намалюй прамяністае заўтра
І сябе ў гэтым сонечным дні.
Намалюй, намалюй гэта зараз,
Намалюй, намалюй, не цягні!

Прыпеў.

Аўтар музыкі і слоў Лявон Вольскі



# Квадрат

Як парад без салдат – не парад,
Так квадрат без вуглоў – не квадрат.
Як футболу патрэбны галы,
Так квадрату патрэбны вуглы.

У квадрата чатыры вуглы.
Хай вялікі ці самы малы,
А ўсё роўна, як ні павярні, –
У квадрата чатыры вуглы.

У квадрата чатыры вуглы.
Хай вялікі ці самы малы,
А ўсё роўна, як ні павярні, –
У квадрата чатыры вуглы.

Не адзін, і не тры, і не пяць...
Можаш плакаць, а можаш скакаць.
Можаш біцца аб стол галавой –
Ты не зменіш сістэмы старой.



Так вучылі і будуць вучыць.
Не змяніць, не стрымаць, не спыніць
Гэты добраахвотны палон,
Гэты самы грунтоўны закон.

У квадрата чатыры вуглы.
Хай вялікі ці самы малы,
А ўсё роўна, як ні павярні, –
У квадрата чатыры вуглы.

У квадрата чатыры вуглы.
Хай вялікі ці самы малы,
А ўсё роўна, як ні павярні, –
У квадрата чатыры вуглы.

Час ідзе, час ляціць, час імчыць,
Не стрымаць, не спыніць, не разбіць...
Росквіт вызначыць заняпад.
Застанецца нязменны квадрат.

Аўтар музыкі Яўген Эльпер
Аўтар слоў Адам Глобус





# ВЕРШ

## Казімір Малевіч

Ёсць манюкі, што ўсіх дурацъ,
А Малевіч тварыў шчыра,
Бо не ўмее талент халтурыць,
Той, каторы – у Казіміра.

Хтось малюе, што мае пад бокам:
Хата, бусел, конік, араты...
Хтосьці бачыць свет трэцім вокам:
Марсіяне, анёлы з Богам...
А чацвёртым – выходзяць квадраты.

Хто стварае без уяўлення,
Сам сябе пасадзіў за краты...
А Малевіч не стаў на калені,
А Малевіч падсеў на квадраты.

Свет вакол стаяў на вушах,
Казіміра ж вяла яго тайна:
Рэвалюцыя з кулямі – жах,
Рэвалюцыя з фарбамі – файна!

Кожны геній – заўжды празорца,
Бачыць тое, што іншы – наўрад ці.
Зразумець пастарайся творцу...
А Малевіч – творца ў квадраце!

Андрэй Хадановіч

# ПАДЗЯКІ


Галерэі сучаснага мастацтва «Ў» за падтрымку на працягу ўсёй працы над кнігай.


Некамерцыйнай арганізацыі «The Malevich Society».

# ЗМЕСТ

Літаратурна-мастацкае выданне

Вольскі Лявон
Глобус Адам
Хадановіч Андрэй

**Казімір Малевіч для дзяцей**

Галоўны рэдактар *В. Акудовіч*
Мастацкі рэдактар *Bazinato*
Карэктар *А. Нанас*
Каардынатар праекта *І. Лукашэнка*
Асістэнт каардынатара *В. Мжэльская*

Аўтар казак
*А. Глобус*

Аўтары вершаў
*Л. Вольскі,*
*А. Глобус,*
*А. Хадановіч*

Аўтар гульняў
С. Садоўская

Аўтары музыкі
*Л. Вольскі,*
*Я. Эльпер*

Аўтары гістарычных даведак
*А. Глобус,*
*А. Лісаў*

Logvino Literatūros namai
J. Savickio 4, LT-01108 Vilnius
Друк BALTO print